Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 9(45) 1 -- 7 сакавіка 1996 года Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Пакалечаны лёс

***Напрыканцы студзеня Гродзенскім абласным судом быў асуджаны жыхар Астравецкага раёна грамадзянін С. за згвалтаванне шасцігадовай дзяўчынкі. Але гэта было не адно процізаконнае дзеянне падсуднага.***

Праз колькі дзён пасля першага злачынства ён учыніў і другое— выкраў аўтамабіль, чым таксама зацікавіў праваахоўныя органы. Машыну ў хуткім часе знайшлі, як і даказалі віну гэтага чалавека ў дачыненні да малой дзяўчынкі.

Маладая жанчына з дачкой прыехала ў глухую вёску, што на Астравеччыне, з далёкага расійскага горада Тула. Прыехала да свайго знаёмага, які пражывае ў Варкуце, але родам з гэтай вёсачкі. У яго тут засталася прыёмная маці, яе ён і наведаў летам. Цёплым жнівеньскім ранкам жанчына са сваім сужыцелем адправілася на аўтамабільны рынак у Мінск, каб выгадна прадаць машыну. Шасцігадовая ж дзяўчынка засталася ў чужой вёсцы пры чужой бабулі.

Бабуля ў той дзень была надта занятая і без найменшых развaг перадаручыла маленькую дзяўчынку "на выхаванне" аднавяскоўцу— 33-гадоваму халасцяку, які да гэтага быў судзімы. Цэлы дзеньдзіцё цягалася пад гарачым жнівеньскім сонцам следам за чужым дзядзькам і ніхто яго нават не запытаў, ці не галоднае яно, ці хочацца яму адпачыць. Бабка ж, яшчэ днём трапіўшы ў палон да "зялёнага змея", працягвала пікнік і вечарам, у суседзяў, дзе і знайшла сабе прытулак на ноч. Убачыўшы гэта, апякун узяў на сябе далейшы клопат аб дзіцяці— перад сном даў кубачак малака (следствам так і не ўстаноўлена, што магло быць туды дабаўлена) і павёў дзяўчынку ў пустую хату, дзе і правёў ноч.

Назаўтра кавалер вярнуў дзіця праспаўшайся бабулі. Маці прыехала позна ўвечары, калі дзяўчынка моцна спала. Можна толькі ўявіць, у якім трывожным чаканні праходзіў для яе той дзень. Беднае дзіця, адное сярод чужых, у такім горы. Наўрад ці ішлі ёй у галаву нейкія забавы. Аднак бабуля так нічога і не заўважыла.

Аб здарыўшымся маці даведалася толькі раніцою, калі пачала збіраць дачушку ў далёкую дарогу— яны збіраліся ад'язджаць дадому, у Расію. Візіт у паліклініку, у раённую пракуратуру, вядома, затрымаў ад'езд. Пацягнулася следства.

Сёння дзяўчынка дома, з маці. Расце, набіраецца сіл. Бясспрэчна, што здарэнне пройдзе чорнай паласой у ейным дзяцінстве.

А сам па сабе гэты жахлівы выпадак -— яскравае пацвярджэнне: часта падобныя абставіны ствараюць людзі самі сабе.

*Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.*

## Брэсцкая крэпасць у цэнтры Валожына

***Ніяк не магу ўцяміць, чаму гэты дом па Савецкай, 4 жыхары Валожына называюць Брэсцкай крэпасцю. Можа, за тоўстыя сцены з жоўта-чырвонай цэглы— такая сёння прымяняецца хіба што пры ўзвядзенні катэджаў у стыле позняга рэнесансу для "новых беларусаў". Альбо за тое, што ў мінулыя часы яго насялялі начальнікі-камандзіры мясцовай вайсковай часці са сваімі сем'ямі— прасторныя пакоі, высокая столь? А можа, таму, што каторы год ён нагадвае фартыфікацыйнае збудаванне пасля штурму варожага войска, а ягоныя насельнікі вымушаны былі адступіць пад націскам неадольнае сілы? І цяпер хто дзе чакаюць светлага дня вызвалення (дакладней, засялення), зрэдку пастрэльваючы скаргамі ў розныя інстанцыі... Ды нават калі і разгадаю я гэтую загадку, лягчэй не стане: ні мне, ні жыхарам дома, якія ў той жа час нібыта і не жыхары яго.***

Гісторыя гэтая, як кажуць, з барадой. У 1990 годзе пасля шматлікіх скаргаў у ЦК КПСС, Міністэрства абароны СССР, камандаванню Беларускай ваеннай акругі дом (а ён знаходзўся і да гэтай пары знаходзіцца на балансе кватэрна-эксплуатацыйнай часці Мінскага гарнізона), нарэшце, быў пастаўлены на капітальны рамонт. Патрэбна было падправіць дах, змяніць рамы ў вокнах, дзверы. Але паколькі цывілізацыя ніяк не магла абмінуць Валожын, то ў каштарыс закладалі падключэнне дома да ўсіх выгод— цэнтральнага цепла- і водазабеспячэння, каналізацыі. Уладальнікаў дванаццаці кватэр на час перабудовы перасялілі каго ў падвал, каго ў прыстасаванае пад жыллё памяшканне, а каго на прыватную кватэру. Былому старшаму прапаршчыку М. Шалакаву з жонкай дастаўся службовы пакой у домакіраўніцтве— без вокнаў, без дзвярэй, святліца поўная людзей. Гаспадары толькі і змаглі ўціснуць ложак, стол ды халадзільнік, астатнюю мэблю завезлі ў вёску. Работніца друкарні М. Патапчанка знайшла прытулак у кватэры з падсяленнем. З'язджала адной з апошніх, нехаця, нібы адчувала— затрымацца ў чужых сценах давядзецца надоўга.

Н. Шалакава: Муж мой у войску служыў з 1958 года, на пенсію пайшоў з узнагародамі і цяжкай хваробай. Марылі атрымаць кватэру ў добраўпарадкаваным доме, але дарма. Аказваецца, не заслужылі. Затое шэсць гадоў мусім чакаць завяршэння рамонту па старому адрасу. У каго толькі ні прасілі дапамогі, куды толькі ні пісалі... І камісіі прыязджалі... Як толькі ведаюць, што камісія прыедзе, нібыта бяруцца за работу. Як ад'ехала— ізноў цішыня. Пытаецe, хто за рамонт павінен адказваць? КЭЧ Мінскага гарнізона, хто ж яшчэ! Памятаю, перад выбарамі прэзідэнта прыязджаў у Валожын тагачасны прэм'ер Кебіч. Сустракаўся ў кінатэатры з гараджанамі, пытаўся, што каго турбуе. Мы да яго са слязьмі падыходзілі. Людзі, вядома, усміхаліся, але нам было не да смеху. Прасілі Вячаслава Францавіча паглядзець, у якіх умовах мы жывём, хацелі гэты дом паказаць. Ён абяцаў заехаць, але, вядома, не знайшоў часу.

М. Патапчанка: Жыву ў гэтым доме з 1975 года. Сапраўды, печкі, дах патрабавалі рамонту. Выселілі нас, нарэшце. Два гады дом стаяў, толькі тое і рабілі будаўнікі, што ламалі і звозілі некуды дошкі, рамы, дзверы, цэглу, кафлю— усё, што можна было. Затым браліся за рамонт. Але хапала іх ненадоўга: ці то заганялі будматэрыялы "налева", ці прапівалі— пастукаюць-пастукаюць і заціхнуць. Так шэсць гадоў і прастукалі. Ці не ў дачах ды катэджах тыя будматэрыялы? Я сама неаднойчы бачыла, як завозілі на дом і дошкі, і цэмент, і ўцяпляльнік, і шкло аконнае, але праз колькі дзён усё невядома куды знікала. Суседка мая, Бруева Зіна, так і не дачакалася канца рамонту, памерла. Можа, і нам давядзецца на той свет адпраўляцца з чужых кватэр, калі і надалей так працягнецца. Звярталіся мы і ў камісію Лукашэнкі, якая працавала ў Валожыне. Таксама абяцалі дапамагчы.

Падчас выбараў першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за Аляксандра Лукашэнку ў Валожыне і Валожынскім раёне прагаласавала больш чым 83 працэнты выбаршчыкаў. У тым ліку і жыхары (былыя? цяперашнія? будучыя?) злашчаснага дома па вуліцы Савецкай, 4. Днямі пра блуканні па пакутах паведаміла ў праграме "Радыёфакт" рэспубліканскае радыё. Дасць Бог, іх крык адчаю даляціць да самай высокай інстанцыі ў нашай краіне. Больш звяртацца за дапамогай няма да каго.

*Аляксандр ЛАЗОЎСКІ.*

Аб'яднаная грамадзянская партыя 3 сакавіка 1996 года у маладзечанскім ДК чыгуначнікаў праводзіць сустрэчу з кіраўніцтвам партыі дэпутатамі Вярхоўнага Савета РБ С.А. Багданкевічам, Г.Дз.Карпенкам, В.М. Шлындзікавым. Уваход свабодны. Пачатак у 13 гадзін.

### Навіны рэгіёна

## Кожнаму вучню— булачку ад "Дока-хлеб"

***Тысячу дзвесце рублёў выдзяляе дзяржава вучню на абед. "Як накарміць яго за гэтую суму?"— галаваломка для дырэктараў школ, якую кожны вырашае па-свойму. Некалькі школ Маладзечанскага раёна адмовіліся ад паслуг раённага аб'яднання грамадскага харчавання і звярнуліся да паслуг камерцыйных фірм. Самая буйная ў раёне— радашковіцкая СШ, таксама пайшла па гэтым шляху.***

Пакуль адпрацоўваліся ўсе пункты дагавора з фірмай "Вадзім", устанаўлівалася абсталяванне, вырашаліся іншыя пытанні, раённыя ўлады часцяком крытыкавалі школу за адсутнасць належнага харчавання. Але прайшло некалькі месяцаў, і цяпер у час перапынкаў школа навадняецца булачкамі, батонамі, тварожнікамі самых розных відаў— ад "Дока-хлеб". Яны таннейшыя, чым у магазінах, бо прадаюцца тут з мінімальнай нацэнкай. Якраз тых дзяржаўных 1200 хапае на булачку. А ўсяго за дзень іх разыходзіцца каля паўтары тысячы. Па два разы на тыдзень вучні атрымліваюць і мясныя, малочныя стравы, прыгатаваныя з высакаякасных прадуктаў, якія закупляе фірма.

З ёю школа звязвае і свае планы па пераабсталяванню адной з абедзенных залаў у дзіцячае кафэ. Конкурс на яго лепшы праект аб'яўлены сярод вучняў. Затым фірма забяспечыць неабходную сыравіну, а вучні на ўроках працы будуць увасабляць свае фантазіі ў жыццё. "Самі зробяць— будуць берагчы,"— упэўнены дырэктар школы Анатоль Аляксеевіч Зыль.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

## Дом фальклору— у млыне. Былым.

***СМАРГОНЬ. У вёсцы Валэйкавічы калгаса "Дружба народаў" прайшоў агляд самадзейнай народнай творчасці раёна.***

І не ў Доме культуры на гэты раз адбылося свята. Сардэчна расчыніў дзверы Валэйкавіцкі Дом фальклору. Доўгі час стаяў у вёсцы закінуты стары млын. На радасць мясцовым фальклорным калектывам "Валэйчанкі" (старэйшым), "Кропелькі" (школьнікам) адміністрацыя калгаса за грошы гаспадаркі рэстаўрыравала млын. Цяпер у "Дружбе народаў" народы сябруюць і спяваюць у двух культурных цэнтрах— Доме культуры цэнтральнай сядзібы і ў вёсцы Валэйкавічы.

*Тэрэза КУМІШЧА.*

## Рэйд закончыўся ў бальніцы

***ВІЛЕЙКА. Для начальніка Ільянскага ўчастка міліцыі і ўчастковага з Ільі рэйд ля хлебазавода скончыўся бальнічным ложкам.***

Трое малайцоў, відаць, на добрым падлітку, паказалі, чаго вартыя іх кулакі. Проста так. Міліцыя не спадабалася. Папераджальныя стрэлы з табельнай зброі эфекту не далі. Міліцыянераў лечаць у райцэнтры. Там жа разбіраюцца з зухаватай тройкай хуліганаў.

*Аддзел інфармацыі.*

## І ў Вілейцы— кандуктары

***З 1 сакавіка ў Вілейцы, следам за Маладзечнам, у гарадскія аўтобусы вяртаюцца кандуктары.***

Праблем, як разумее чытач, з кадрамі сёння не было. Праблемы будуць крыху пазней. У зайцоў.

*Мікола ГАЙДУК.*

## Без вады...

***засталіся гэтай зімой жыхары вёскі Асташкава, што на Вілейшчыне. Цяжка сказаць, па якой прычыне пакінула яна вёску, аднак у двух вясковых студнях знікла зусім, у двух іншых — ледзь з'яўляецца.***

Найбольш прабіўныя асташкаўцы звярнуліся па дапамогу да мясцовых гаспадарнікаў і ўлад, іншыя— запрэглі коніка і наладзілі "дарогу жыцця" на ферму ў суседнюю Арпу. Найбольш жа пакрыўджанымі у гэтай сітуацыі засталіся пенсіянеры, якіх у Асташкаве большасць.

*Аддзел інфармацыі.*

## Пажаданні запісалі. Ці будзе адказ?

***СМАРГОНЬ. Аб вясковых балячках ішла размова ў Сінькоўскім сельскім Савеце (калгас імя Дзяржынскага).***

На сустрэчу з вяскоўцамі Аляксандр Пятровіч Гнілазуб, намеснік старшыні райвыканкома, прывёз адказных работнікаў раёна. Прадстаўнікі розных устаноў і арганізацый далі інфармацыю аб стане спраў у сваіх "гаспадарках".

Многа было да іх і крытычных заўваг: чаму дрэнна забяспечваюцца вясковыя магазіны мукой, не чысцяцца дарогі.

Усе пажаданні старанна запісваліся. Ці будзе адказ на іх справай?

*Тэрэза КУМІШЧА.*

## Прыкметна пашырэлі рады абаронцаў

***Пасля таго, як у красавіку 1995 быў адменены артыкул Закона РБ "Аб усеагульным воінскім абавязку і воінскай службе" адносна жанчынмаці, якія не падлягалі воінскаму ўліку.***

Цяпер дзеці— не перашкода для жанчын пры выкананні воінскага абавязку. Радавыя, сяржанты, прапаршчыкі, мічманы стаяць на ўліку да 45 год, афіцэры— да 50-ці. Як паведаміў маладзечанскі гаррайваенком Валерый Голуб, у горадзе і раёне налічваецца 1742 прадстаўніцы слабага полу, якія з'яўляюцца ваеннаабавязанымі; 431 з іх— афіцэры.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА, радавы запасу.*



***Рэдакцыя "РГ" пераехала на адрас: Маладзечна, вул. Хмяльніцкага, 10, інтэрнат палітэхнікума. Тэлефон застаўся ранейшым— 53841.***

Для тых, хто верыць Месяцу

## Месяцавы каляндар на сакавік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Панядзелак<br>Мес.дзень | | 4<br>18.15<br>16 | 11<br>1.18<br>22 | 18<br>6.15<br>29 | 25<br>10.38<br>7 |
| Аўторак<br>Мес.дзень | | 5<br>19.23<br>17 | 12<br>2.26<br>23 | 19<br>7.18<br>14.51<br>30,1 | 26<br>11.02<br>8 |
| Серада<br>Мес.дзень | | 6<br>20.33<br>18 | 13<br>3.27<br>24 | 20<br>7.35<br>2 | 27<br>11.53<br>9 |
| Чацвер<br>Мес.дзень | | 7<br>21.42<br>19 | 14<br>4.21<br>25 | 21<br>8.02<br>3 | 28<br>12.50<br>10 |
| Пятніца<br>Мес.дзень | 1<br>15.01<br>13 | 8<br>22.56<br>20 | 15<br>5.05<br>26 | 22<br>8.30<br>4 | 29<br>13.51<br>11 |
| Субота<br>Мес.дзень | 2<br>16.03<br>14 | 9<br>24.00<br>21 | 16<br>5.42<br>27 | 23<br>9.01<br>5 | 30<br>14.53<br>12 |
| Нядзеля<br>Мес.дзень | 3<br>17.08<br>15 | 10<br>-<br>21 | 17<br>6.11<br>28 | 24<br>9.34<br>6 | 31<br>16.00<br>13 |
| Дата | | 5 сакавіка | 12 сакавіка | 19 сакавіка | 27 сакавіка |
| ФАЗЫ Месяца | | 3 чвэрць поўня | 4 чвэрць | 1 чвэрць маладзік | 2 чвэрць |

Усход Месяца— для Маладзечна

**Крытычныя месяцавыя дні**— 9, 15, 19, 29— патрабуюць перасцярогі і абароны.

**Спрыяльныя месяцавыя дні**— 6, 10, 12, 16, 17, 30— даюць добрую энергію і падтрымку светлымі сіламі.

### Месяц у знаках Задыяка

| ДАТА | 1 | 4 | 6 | 9 | 11 | 13 | 15 | 17 | 19 | 21 | 24 | 26 | 29 | 31 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ЗНАК | ♌ | ♍ | ♎ | ♏ | ♐ | ♑ | ♒ | ♓ | ♈ | ♉ | ♊ | ♋ | ♌ | ♍ |

## Што год наступны нам рыхтуе?

Сакавік выключны месяц у Авестыйскім астракалендары, таму што 27 сакавіка ў 7 гадзін 19 хвілін Сонца ўвойдзе ў першы градус Авена і з гэтага часу пачнецца адлік года Арла. Года царственнасці, года велічы, года мэтанакіраванасці або, наадварот, праявы антытатэма Саранчы,— што ў нас больш праявіцца.

Сёлетні год не якога-небудзь Пацука. Пацук— гэта храфстра: сквапная, якая пажырае ўсё хатняе дабро, якая імкнецца ўчапіцца ў горла блізкаму, якая разносіць эпідэміі і мор— вось што такое Пацук. Калі яна ў вас завялася, вы апаганеныя.

Першы дзень сонечнага календара— свята, якое прысвечанае Душам Добрых продкаў і першачалавеку. Запальвайце свечкі, абносьце імі сваё жыллё, чытайце малітвы, схадзіце ў царкву.

На працягу 10 дзён сакавіка мы павінны святкаваць і шанаваць. Напрыклад, 26 сакавіка звязана з місіяй Заратуштры, з Вялікім прарокам.

27 сакавіка, мы павінны шанаваць Хрыста. Гэта дзень умацавання хрысціянскага аграгора, яго місіі. Заканчваецца сустрэча Новага года развітаннем са святам, падвядзеннем вынікаў развіцця свету і людзей, аб'яднання чалавецтва.

Пачатак года— гэта час, калі прайграецца містэрыя пачатку стварэння і канца гэтага свету. На гэты пачатак зробім некаторы прагноз.

3-ці месяцавы дзень і чацвер. Ён заклікае нас да актыўнай барацьбы Святла і Цемры. Усе пасіўныя людзі, народжаныя ў гэты дзень, будуць слабымі да сіл Цемры. Гэта самы баявы дзень і, значыць, такі будзе год.

Чацвер прысвечаны цару багоў Юпітэру. Юпітэр— улада, закон, аўтарытэт, светапогляд. 16 ліпеня ў Юпітэр урэзалася камета Шумейкера- Леві і гэта, з астралагічнага пункту гледжання, невыпадкова. Таму ён зараз прад'яўляе да нас адпаведныя патрабаванні, перш за ўсё да заканадаўчай улады.

**АВЕНЫ**— вас чакаюць жыццёвыя выпрабаванні, незваротныя змены ў лёсе, аддача кармічных абавязкаў.

**ЦЯЛЬЦЫ**— жаданне новага вопыту ў каханні, невычэрпнасці і неўтаймаванасці. Унутраная зменлівасць пачуццяў у каханні.

**БЛІЗНЯТЫ**— светлыя крыніцы інфармацыі чакаюць вас у гэтым годзе, добрыя ўчынкі і справы, хатнія з разуменнем будуць ставіцца да вашых імкненняў.

**РАКІ**— вас можа напаткаць бяздомнасць, няўпэўненасць, падазронасць, хатнія сваркі, страхі, маніі, праследаванні, небяспека ад вады і вадкасцяў.

**ЛЬВЫ**— можа праявіцца незадаволенае славалюбства, зайздрасць да ўсіх таленавітых, хваравітая цяга да дзяцей. На шляху збавення будзеце пакутаваць ад маючых уладу. Не трэба сумаваць з-за нешчаслівага кахання.

**ДЗЕВЫ**— у гэтым годзе няшчырыя, будуць хітраваць, чужыя думкі выдаваць за свае.

**ШАЛІ**— перад вамі праблема выбару, з кім вы? У характары ваганні, нерашучасць, няўпэўненасць. У лепшым— дыпламатычнасць, прага справядлівасці.

**СКАРПІЁНЫ**— вас чакае алхмія экстрэмальных сітуацый. У горшым— негатыўны погляд на сябе, чалавецтва і прыроду. Бойцеся чорнай магіі.

**СТРАЛЬЦЫ**— пабеража́ыцеся з вашай хітрасцю, каварнасцю, хапужніцтвам, падманам, схільнасцю да гвалту над іншымі— вас чакаюць за гэта атручванне і атручвальніцы.

**КАЗЯРОГІ**— праверка на сумленнасць, пошукі духоўнага напрамку, знішчайце свой фанатызм і дагматызм, дэспатызм. Кантралюйце думкі, словы і ўчынкі.

**ВАДАЛЕІ**— на вастрыі моманту. У гэтым годзе ў вас злая зорка, змагайцеся са злом і мярзотнасцю. Дзіўныя падзеі, праявы дэманаў, дамавікоў і злых духаў. Магчымыя скураныя захворванні і іншы негатывізм.

**РЫБЫ**— зблытанасць ідэй, фанатызм, манілаўшчына. Магчымы псіхічныя цяжкасці ў самасцвярджэнні, хаос і непарадак ва ўсведамленні. Сцеражыцеся магічнага ўплыву і якіх-кольвек незваротных зменаў у лёсе.

У гэтым годзе будуць пакутаваць асобныя калектывы, якія ўнеслі апаганенне на гэту Зямлю (партыі, групы, рухі і г. д.).

*Іван ШУБЦІК, Маладзечна*

# "Можна плаціць падаткі і нармальна працаваць",— сцвярджае начальнік падатковай інспекцыі г. Маладзечна А. Савіцкі

***Больш за пяць год дзейнічае ў Маладзечне дзяржаўная падатковая служба. За гэты час памянялася яе структура, умацавалася матэрыяльна-тэхнічная база. На пытанні "РГ" адказвае начальнік гарадской інспекцыі Антон Іосіфавіч Савіцкі.***

***— Маладзечна — самы буйны горад рэгіёна (Мінск, вядома, не лічым). Натуральна, і падаткаплацельшчыкаў больш, аб'ём работы павялічаны.***

— На 1 студзеня на ўліку ў нас 1192 плацельшчыкі-юрыдычныя асобы, дадайце сюды больш за тры тысячы прыватных прадпрымальнікаў. Займаюцца яны, на жаль, у асноўным гандлёва-закупачнай дзейнасцю. Сама па сабе дзейнасць гэтая нічога заганнага не нясе; кепска, што ніхто не хоча вырабляць. Сярод юрыдычных асоб, да прыкладу, 878 камерцыйных структураў — больш за 70 працэнтаў. Не адстаюць і прадпрымальнікі: у большасці іхняя сфера дзейнасці замыкаецца на кіёсках, шапіках, рынку.

***— Усё ж можна гаварыць аб попыце на іхнія паслугі?***

— Гандлюем адзін з адным. Ёсць яшчэ адзін аспект: за мінулы год паступіла падаткаў у бюджэт ад юрыдычных асоб амаль 200 мільярдаў рублёў. Згаданыя камерцыйныя структуры далі каля 15 працэнтаў падаткаў, дзяржпрадпрыемствы — амаль 77. Элементарнае нежаданне плаціць.

***— У некаторых выпадках гэта могуць быць проста памылкі.***

— Чамусьці яны заўсёды ў бок заніжэння даходаў. Так было ў палавіны правераных летась юрыдычных асоб (калі браць камерцыйныя структуры — то ў большай часткі). Даналічана ў бюджэт больш за 50 мільярдаў рублёў (ільвіную долю ўнеслі ўсё тыя ж камерцыйныя структуры).

***— Гэта не пошук вінаватых?***

— Ні ў якім разе. Гаворка ідзе толькі пра бюджэт: няма сродкаў на развіццё інфраструктуры горада, затрымліваецца зарплата бюджэтным установам, выплата пенсій. Дарэчы, робяць людзі так сабе ва ўрон — у бюджэт забіраецца ўвесь схаваны даход, налічваецца пеня за несвоечасовыя выплаты, прымяняюцца штрафныя санкцыі.

***— У некаторай ступені іх можна зразумець: стаўкі падаткаў высокія, а дзейнасць прадпрыемства могуць і не праверыць. Акрамя ўсяго, бывае прасцей заплаціць мільёны ў канцы года, чым тысячы на яго пачатку.***

— Усё так. Але МДП "Зарянка" згубіла такім чынам 3,5 мільярда рублёў, кааператыў "Заготовитель" — у 10 разоў болей. ЗАТ "Хлебапрадукт" даналічана падаткаў на паўтара мільярда рублёў. Вось і лічыце, што выгадней.

***— Пракаменціруйце, калі ласка, маючы быць указ прэзідэнта аб тым, каб надаць мясцовым "вертыкалям" права прыпыняць дзейнасць камерцыйных прадпрыемстваў, калі яны шэсць месяцаў працуюць са стратамі, а тры месяцы не маюць руху грошай на банкаўскіх рахунках.***

— Сітуацыя на кожным прадпрыемстве можа быць самая розная, таму і падыход, лічу, павінен дыферэнцыравацца. Але ў большасці сваёй — мера апраўданая. Некаторыя з зарэгістраваных прадпрыемстваў не вядуць дзейнасць з 1992-1993 года, многія працуюць са стратамі. Ну скажыце вы мне: які сэнс мець стратнае прыватнае прадпрыемства? Толькі пры ўмове вядзення спраў за наяўныя — няўлічаныя, натуральна. Вось і атрымліваецца, што падчас праверак стратныя часта становяцца... прыбытковымі. МП "Влад" паказала амаль паўмільярдныя страты, на справе мела больш за 30 мільёнаў прыбытку; МП "Элит" — адпаведна 177 і 25 мільёнаў; МП "СТС" — амаль 2 мільярды і 22 мільёны; МП "Иппон" — паўтара мільярда і 16 мільёнаў; МП "Апмен" — 785 і 9 мільёнаў; МП "Баранов" — 1,3 мільярда і 15 мільёнаў. Найбольш тыповыя пазіцыі — няправільнае аднясенне сумаў на затраты, завышэнне выдаткаў абароту, няправільнае вядзенне бухгалтарскага ўліку. Вось такім мільёнамі і папоўнілі бюджэт. Прыкладна такая самая сітуацыя штогод. Розніца толькі ў назвах прадпрыемстваў ды лічбах.

***— Акрамя ўсяго існуе пытанне неплацяжоў. Калі мне не плацяць заказчыкі, то і я не магу разлічыцца з бюджэтам. Пеня ж за несвоечасовыя выплаты налічваецца аднолькавая.***

— За мінулы год у бюджэт не паступілі больш як 23 мільярды рублёў. "Мільярдэры" — "Электрамодуль" (1168 млн. руб.), станказавод (2095 млн. руб.), "Спадарожнік" (6398 млн. руб.). У асноўным нашы прадпрыемствы маюць шмат дэбітораў — за паслугі, прадукцыю не разлічваюцца прадпрыемствы Расіі, іншых краін, нізкі попыт на станкабудаўнічую прадукцыю. А даўгі растуць.

***— Лічбы красамоўныя, калі ўлічыць, што менавіта з бюджэту фінансуюцца многія ўстановы і праграмы. А прадпрымальнікі?***

— Таксама прывяду лічбы. За мінулы год яны прынеслі бюджэту амаль 2 мільярды рублёў, што складае прыкладна 650 тысяч на кожнага. Хаваюць даходы; па нашых падліках "гандлёва-закупшчыкі" павінны пералічваць падаткаў каля 2-3 мільёнаў. У 851 летась не было руху грошай на банкаўскіх рахунках. Не працавалі, відаць. Праверылі палавіну з іх — даналічылі ў бюджэт 640 мільёнаў рублёў. Не паказваюць у дэкларацыях аб даходзе выручку. Прадпрымальнік Спічонак завысіў свае выдаткі на 23 мільёны рублёў, не заплаціў 3 мільёны падатку на дабаўленую вартасць; Ледаховіч прадавала тавар у кіёску без пагашэння адрыўных талонаў (выручка ішла ў кішэню); за тым самым заспелі Салагуб. Ва ўсіх выпадках гаворка ідзе аб мільёнах рублёў. Каля 70 спраў знаходзяцца ў судзе — гэтыя прадпрымальнікі мала што хаваюць даходы, дык і плаціць проста адмаўляюцца. Ёсць такія, што гандлююць без дзяржаўнай рэгістрацыі. Усе імкнуцца прадаць цыгарэты ды спіртное без акцызных марак.

***— Дарэчы, давялося бачыць, калі школьнікі дзяжураць ля кіёскаў, просяць у пакупнікоў акцызныя маркі з тавару і аддаюць іх назад прадаўцу, за жвачку.***

— Такім чынам пазбаўляюцца акцызнага падатку. Але зрабіць тут практычна нічога не магчыма. Хіба толькі дапаможа рашэнне Кабінета Міністраў аб запакоўванні маркі ў тару? Хаця як гэта будзе рабіцца?

***— Час складаны амаль для ўсіх. Цяжкавата бывае ў рабоце?***

— Ведаеце, каб не мытня ды падатковая інспекцыя, дык у казне, мусіць, пуставата было б. Хаця ёсць і такія, што... хочуць плаціць. Затое спяць спакойна. Законы, можа, і не спрыяюць актыўнасці пры выплаце падаткаў, але іх трэба выконваць. На тое яны і законы.

***— Адсюль вынікае наступнае пытанне: падатковае заканадаўства мяняецца ледзьве не штодня; адны формы справаздачнасці чаго вартыя. Што рабіць падаткаплацельшчыкам, калі ўчора яны ведалі адно, сёння ў газетах прачыталі другое, а ў падатковай інспекцыі чуюць трэцяе?***

— Недахоп інфармацыі адчуваем часам і мы. Адно з выйсцяў, напэўна, у супрацоўніцтве з прэсай, у тым ліку з "РГ".

*Запісаў*
*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*



## Атрад дружыннікаў замест аднаго міліцыянера

***Мінулы год для праваахоўных органаў Астравеччыны прынёс, як і звычайна, нямала турбот. Назіраўся некаторы рост разбояў, грабяжоў, забойстваў і згвалтаванняў.***

Вырасла колькасць грабяжоў дзяржаўнай маёмасці, у прыватнасці калгаснай. Не замінае тут аматарам лёгкай нажывы і прыгранічная зона— бясследна знікае ў Літве калгасная і хатняя жывёла, сельгасінвентар і машыны. Прычым асаблівую цікавасць літоўскія гаспадары праяўляюць да беларускіх трактароў. На тэрыторыі раёна за мінулы год здарылася два такіх выпадкі, калі за "жалезнага каня" наезджыя госці не шкадавалі нават чалавечага жыцця, не кажучы аб здароўі. Напрыканцы мая два жыхары Літвы напалі на трактарыста калгаса імя Мічурына, занятага сваімі працоўнымі клопатамі, збілі яго да смерці, а самі пераправілі трактар МТЗ-80 на сваю радзіму, дзе і збылі яго за 800 долараў ЗША. Віноўным не ўдалося доўга пагуляць, іх выкрылі і затрымалі, а трактар вярнулі ў гаспадарку. Справа накіравана ў акружны суд Вільнюса для разгляду.

У пачатку чэрвеня восем літоўскіх грамадзян незаконна перасяклі дзяржаўную граніцу і прыехалі на цэнтральную сядзібу гэтага ж калгаса. Іх таксама цікавілі трактары той жа маркі, што знаходзіліся на мехдвары, і якія ім удалося-такі выкрасці, не зважаючы на вартаўніка. Дарэчы, з ім яны абышліся таксама жорстка. Звязаўшы яму рукі і ногі, збілі. У гэтым выпадку віноўныя таксама атрымалі пакаранне. Але, на жаль, далёка не ўсё, на што кваляцца "замежныя гастралёры", вяртаецца да нашых гаспадароў. Таму ў раённым аддзеле міліцыі раяць больш вешаць замкоў на ўласныя хлявы, ну а калгасу— ствараць атрады добраахвотнай народнай дружыны, паколькі да кожнага мехдвара і фірмы міліцыянта не прыставіш.

*Галіна СІНІЦКАЯ.*

## Прышылі ўхілістам крымінал

***У час прызыўной кампаніі ля Маладзечанскага аб'яднанага гарваенкамата натоўп— прызыўнікі, іх сябры, бацькі. Які лёс чакае крывіначчку, куды занясе нялёгкая, а можа знойдзецца магчымасць наогул не пакаштаваць салдацкай кашы?— так разважаюць некаторыя таты і мамы, шукаючы выйсце, каб пазбегнуць сыну салдатчыны.***

Магчыма, з "дазволу" сваіх дамашніх Глеб Буцько вырашыў у армію не ісці. Ды толькі выйшла— горш не прыдумаеш. Ухілістам занялася пракуратура. Вынік— адзін год пазбаўлення волі пасля... службы ў арміі. Гавораць, што сям'я Буцько вельмі станоўчая. Ёсць ухілісты са стажам. Сяргей Сергіевіч, 1969 года нараджэння, атрымаў два гады пазбаўлення волі. А ёсць проста злачынцы. Сяргею Ашчэпкаву суддзя вызначыў тры гады за ўхіленне ад прызыву і грабеж. Здаецца, хлопца пашкадавалі.

Пытаюся ў падпалкоўніка Валянціна Дзмітрыевіча Арэхава— начальніка аддзела прызыву ва ўзброеныя сілы рэспублікі:

***— Ці пойдзе ў армію асоба прызыўнога ўзросту, адседзеўшая у турме?***

—Усё залежыць ад артыкула, па якому яго абвінавацілі. Вось толькі-толькі скончыўся прызыў (лістапад-снежань-студзень), і па гораду прызнаны непрыгоднымі да ваеннай службы 21 былы зэк і 114 чалавек па стану здароўя. У раёне адпаведныя лічбы— 7 і 53.

***—А колькі хлопцаў не з'явілася на апошнюю прызыўную камісію?***

—Па гораду падлягалі прызыву 686 чалавек, не з'явіліся тры. У раёне стопрацэнтны вынік— 273 прызыўнікі павінны былі прыйсці і прыйшлі. Іншая справа, што многія хочуць працягнуць тэрмін знаходжання дома. У нас добрыя рабочыя адносіны з міліцыяй, пракуратурай. У апошнюю прызыўную камісію праваахоўнымі органамі дастаўлена да нас 220 прызыўнікоў.

***—Многа гадоў таму, памятаю, на камісіі хлопцы "касілі". Напярэдадні пілі па дзесяць шклянак кавы, каб падняўся ціск, закапвалі вочы, каб пагоршыўся зрок. Ці праходзяць такія нумары?***

—Калі ўзнікаюць пытанні па стану здароўя, прызыўнік накіроўваецца на стацыянарнае абследаванне ў гарадскую, раённую, абласную бальніцы. Падмануць урачоў немагчыма. Ну а калі хто хоча ўсё ж такі заняцца падманам, папярэджу: згодна з артыкулам крымінальнага кодэкса за сімуляцыю хваробы, ўхіленне з падлогам дакументаў выносіцца пакаранне— пазбаўленне волі ад года да пяці.

***—Колькі працэнтаў прызыўнікоў ідзе служыць у армію?***

— 78,7 ад агульнай колькасці па гораду і раёну за апошні прызыў. Многа хворых. Найбольш хлопцы пакутуюць на захворванні сэрца, язву страўніка. Таксама на плоскаступнёвасць, скаліёз, на зрок.

***—Колькі ўхілістаў сёння ў пошуку?***

Пяць чалавек. Самы вядомы з іх Юрый Ліпчынскі, былы футбаліст.

*Гутарыў Васіль САВІЦКІ.*

